Opłatą pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

Выходзіць два разы ў тыдзень.

№ 19 (32). Вільня, Субота, 6-га сакавіка 1926 г. Год II.

## Праца у вёсцы і для вёскі.

У адным з апошніх нумароў мы на гэтым мейсцы гаварылі аб насьпеўшай патрэбе адчыненьня ў Вільні Беларускага Народнага Унівэрсытэту, або прынамся курсаў беларусазнаўства. Такая ўстанова *іменна* ў *Вільні* патрэбна затым, што тут—галоўны культурны цэнтр Заходняе Беларусі, тут узгадоўваюцца падрастаючыя пакаленьні беларускае інтэлігенцыі, якую „паны палажэньня“ стараюцца перарабіць на свой капыл, і тут гэтай моладзі больш, чым дзе, трэба даць магчыма поўнае знаёмства з родным краем, сваім народам і яго культурнай творчасьцяй, — трэба даць той беларускі „багаж“, з якім яна пойдзе ў самастойнае жыцьцё і самастойную працу для свайго народу.

Але гэтая задача далёка не вычэрпывае тэй шырачэннай праграмы беларускае культурнае працы ў *масах*, якая рашуча вымагае для сябе шмат больш увагі, чым у нас ёй прынята ўдзяляць.

Беларуская вёска, беларускае мястэчка з кожным днём усё больш і больш выяўляюць сталы рост *нацыянальнае і грамадзкае сьвядомасьці*. Усьведамленьне гэтае—у значнай меры дзякуючы ўтварыўшымся палітычным варункам! — як-быццам адбірае, выдзяляе ў свайго роду ідэйнае брацтва ўсе лепшыя элемэнты вёскі, якія імкнуцца да актыўнае працы на карысьць сваіх паняволеных братоў. Але часта—апрача гэтае сьвядомасьці і добрых пажаданьняў—у іх *няма з чым ісьці да масы*, няма ўменьня працаваць дзеля яе. І гэтак вялізарны запас энэргіі астаецца нявыкарыстаным і прападае марна.

Вось перад усім такім *сьвядомым ужо элемэнтам* нашае вёскі і трэба дапамагчы. Трэба ім даць *моцныя фундамэнты культуры і веды*. З імі павінна падзяліцца сваей ведай, сваімі нарастаючымі культурнымі сіламі—перад усім Вільня.

Тварэньне хат-чытален; закладаньне гурткоў моладзі дзеля сама-эдукацыі, дзеля супольнага чытаньня і разгляду беларускіх літэратурных твораў і ўласных твораў учасьнікаў, дзеля пазнаньня роднага краю, пачынаючы ад найбліжэйшых сваіх ваколіц; праца над зьбіраньнем народных песень, казак, прыказак і т. п.; зьбіраньне ўзораў народных вырабаў—ткацкіх, разьбярскіх, малярскіх і інш., памятак даўно мінулых часоў і ўспамінаў аб гэтых часох—вось тое, што мы можам параіць нашай сьвядомай моладзі ў вёсцы ў першы чарод. Мы думаем, што і Беларуская Цэнтральная Школьная Рада, і Беларускае Навуковае Таварыства не адмовяць сваей парады і дапамогі ўсім тым, хто заахвоціўся-бы такой працай.

А побач з гэтым—праца ў тым кірунку, у якім наша вясковая моладзь ужо йдзе саматугам: тварэньне тэатральных дружын, пастаноўка беларускіх спэктакляў, арганізацыя вясковых хораў і ладжаньне вечарынак, на якіх моладзь не залівала-б вачэй гарэлкай, а мела-бы *прыстойную духовую страву і забаву*.

Урэшце—яшчэ адна галіна дзеяльнасьці, на якую мы павінны тут зьвярнуць асаблівую ўвагу. Гэта—*фізычнае разьвіцьцё*, спорт усіх відаў. На гэтым груньце можа знайсьці для сябе належны выхад навет і энэргія тых сяньня йшчэ *маласьвядомых* элемэнтаў, якія апрача п'янства і пасьля разьбіваньня сабе ўзаемна галоў нічога перад сабой ня бачаць. Гімнастычныя гурткі—вось занятак, даступны кожнай вёсцы, абы толькі там аб'явіўся адзін сьвядомы беларус.

Апошнія гады і варункі, у якіх жыве Заходняя Беларусь, ужо ў значнай меры разьвілі ў нашай масе сьвядомасьць, што яна можа спадзявацца ў-ва усіх справах *толькі на сябе і на свае ўласныя сілы*, — навучылі яе ўсё рабіць *саматугам*. Гэтую сьвядомасьць, гэтую жыцьцёвую навуку і трэба цяпер выкарыстаць дзеля *духовага і фізычнага адраджэньня нашае вёскі*.

Мы толькі коратка нарысавалі тут плян працы ў вёсцы, адзначыўшы галоўныя галіны такое працы. Мы думаем, што, калі-б удалося ў Вільні наладзіць нейкую краязнаўчую арганізацыю—самастойную, ці пры Беларускім Навуковым Таварыстве, дык кожнае лета можна было-б ладзіць дзесяткі экскурсіяў вучашчаеся моладзі ў вёскі — дзеля *пазнаньня краю* ўчасьнікамі экскурсіяў і аднача́сна дзеля *дапамогі вёсцы* ў наладжаньні культурнае працы на мясцох. Спадзяемся, што адносныя беларускія культурныя ўстановы зьвернуць на гэту справу належную ўвагу і выпаўняць перад беларускай вёскай свой грамадзкі і нацыянальны абавязак.

## Пасольскі мітынг Сялянска-Работніцкай Грамады у Горадні.

(Ад нашага горадзенскага карэспандэнта).

На мітынг 20 мінулага лютага прыехаў дэпутат Сойму з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады Браніслаў Тарашкевіч. Мітынг адбыўся ў кіне „Паляс“. Саля кіна была перапоўнена: сабралося балей за паўтары тысячы людзей. Мітынг цягнуўся каля паўтары гадзіны.

Выступіў з вялікай прамоваю дэпутат Тарашкевіч, які пачаў гаварыць пра Касу Хворых, выбары да якой павінны былі адбыцца на заўтра, 21 лютага 1926 г.; падчыркнуў, што, дзякуючы рэвалюцыйным заваяваньням рабочых і сялян, рабочыя масы здабылі Касу Хворых, але буржуазія хоча зусім яе зьліквідаваць. Прывітаў далей фронт работнікаў, якія ідуць на выбары пад сьцягам клясавых прафэсыянальных саюзаў места Горадні і прызываў галасаваць за № 5, дзе ўсе палітычныя ўгрупаваньні, як ад Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, лявіцы і інш., аб'ядналіся разам дзеля барацьбы з капіталістамі і абшарнікамі.

Не абмінуў Тарашкевіч і справы зямельнай рэформы, таго ўставу, які пазбаўляе нашага зьбяднеўшага селяніна права на зямлю.

Прамоўца падрабязна ахарактэрызаваў працу буржуазных Урадаў Польшчы, якія стварылі гаспадарчы і фінансавы крызіс, якія давялі да нэндзы і даводзяць да адчаю работніка і селяніна.

Таксама абрысаваў дэпутат адносіны да нацыянальных меншасьцяў. Успомніў дэпутат пра ўрад Вітаса, сяброў якога — Керніка і Осецкага партыя П.П.С. называла зладзеямі і навет даказала і аддала пад суд, а сёньня самі П.П.С. сядзяць у ўрадзе коаліцыі Хіена-Пяста з тымі самымі асобамі. У часе ўрадаваньня Вітаса былі крывавыя лістападавыя падзеі ў Кракаве, дзе ахвярамі былі афіцэр і жаўнеры, а сёньня пры ўрадзе, у якім сядзіць П.П.С., ахвярамі зьяўляюцца работнікі, як гэта было ў Калішу і інш. местах.

Не абмінуў дэпутат і падаткаў, якія накладаюцца на работнікаў і сялян і сьцягваюцца пад прымусам у той час, калі абшарнікі і капіталісты атрымовываюць розныя льготы і ня плацяць.

І, як у Сойме, так і тут на мітынгу, як прадстаўнік Бел. Сял.-Раб. Грамады, Тарашкевіч зазначыў, што ўсе гэтыя праявы буржуазных урадаў спыняцца толькі пры ўтварэньні Работніцка-Сялянскага Ураду, ды што толькі пры гэтакім урадзе можна будзе вырашаць лёс прыгнечаных народаў.

Закончыў сваю прамову дэпутат прызывам: „Няхай жыве супольны фронт работнікаў і сялян, няхай жыве горадзенскі пралетарыят“!

Затым была прынята рэзалюцыя, у якой сабраўшыяся пратэстуюць проці выпадкаў з рабочымі ў Калішы.

Увесь мітынг прайшоў пры бадзёрым настрою прысутных, якія гарачымі і дружнымі воплескамі абдарывалі прамоўцу.

На салі раздаліся галасы „Няхай жыве Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада і яе правадыры“!

Мітынг быў абвешчаны зачыненым, і былі разданы прысутным Бюлетэні Грамады і апошнія нумары газэты „Беларуская Ніва“.

**Нёман.**

## Сойм.

### Дыскусія ў справе зацьверджаньня Лёкарнскіх Трактатаў.

2 сакавіка ў Сойме адбылася вельмі цікавая дыскусія ў справе ратыфікацыі (зацьверджаньня) Лёкарнскіх Трактатаў.

Дакладчык камісіі п. **Недзялковскі** (ППС) лічыць добрымі Трактаты і радзіць іх зацьвярдзіць. Трактат француска-польскі ўзмацняе француска-польскі саюз, а трактат польска-нямецкі дае шлях да вырашэньня ўсіх спорак між аыбдвума краямі, навет спорак... аб граніцах, скіроўваючы іх ці то ў Лігу народаў, ці то—ў Гаагскі Трыбунал. Але дзеля таго, каб „Лёкарно“ мела запраўдную вартасьць для Польшчы і... для Эўропы, трэба, каб Польшчы было прызнана... сталае мейсца ў Радзе Лігі!

П. **Рудзіньскі** (Вызваленьне) наадварот—лічыць Трактаты вельмі шкоднымі для Польшчы. Француска-польскі саюз—аслаблены ў Лёкарно: Польшча ізалявана (абасоблена) ў Эўропе. Наадварот—Нямеччына здабыла ў Лёкарно вялікія пасьпехі, дабіўшыся перад усім прызнаньня рознай моцы розных гарантыяў для сваіх усходніх граніцаў — у параўнаньні з заходнімі... Дзеля таго пасол трэбуе—адкінуць гэтыя Трактаты.

П. **Строньскі** раскрывае, для чаго перад усім хоча Польшча папасьці ў Раду Лігі. — Польшча падпісала адна толькі з усіх дзяржаў спэцыяльны Трактат аб ахове правоў меншасьцяў... Калі Польшчы ня будзе ў Радзе, тады Нямеччына — праз Раду можа змусіць Польшчу... выконываць гэты Трактат, „забясьпечываючы“ правы яе меншасьцяў... А калі будзе ў Радзе Польшча, тады яе прадстаўнік пэўна-ж здолее — паралізаваць „шкодны для Польшчы ўплыў Нямеччыны на Раду“... Строньскі трэбуе зьвязаць ратыфікацыю Трактату з справай прызнаньня Польшчы сталага мейсца ў Лізе. А калі Польшча гэтага мейсца не атрымае, тады,—рабіць, як Нямеччына: трымацца здалека ад Лігі і ўвайсьці ў яе ізноў толькі—на сталае мейсца ў Радзе. Сцьвярджае пасол і тое, што Францыя ня здолела ў Лёкарно забясьпечыць польскія граніцы—навет так, як свае...

П. **Гломбіньскі** (Эндэцыя) дамагаецца сталага мейсца для Польшчы ў Радзе, каб забясьпечыць шчыра мірныя ўплывы Польшчы ў Эўропе... Толькі тады запануе ў Эўропе запраўдная шляхоцкая палітыка міру, толеранцыі і паразуменьня народаў, і спыніцца палітыка захватаў і гвалтаў...

П. п. **Пэрль**, (ППС) і **Хаціньскі** (Хрысьц. Дэмакрат.)—за ратыфікацыю.

П. **Дэмбскі** (Пяст) кажа, што Лёкарно зусім не забясьпечывае граніц і правоў Польшчы, дык трэба перад усім—вясьці больш актыўную замежную палітыку. Трэба найбліжэйшае паразуменьне з Чэха-Славакіяй, трэба зрабіць „Усходняе Лёкарно“.

П. **Добмскі** (Сялянская Партыя)—рашуча проці Лёкарнскіх Трактатаў, якія нічога не даюць польскай дэмакратыі.

П. **Попель** (Работнікі-нацыяналісты) адмаўляе зацьверджаньню Трактатаў.

Новы пасол-камуніст **Варшаўскі**—рашуча проці Трактатаў, як маючых на мэце блёкаду Радавай Расеі. Так сама проці высказаліся п. п. **Васыньчук** (украін) і **Рагуля** (Белар. Клюб).

Галасаваньнем усе Трактаты **прыняты** ў 2 і 3 чытаньнях.

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### „Хрысьціянскія абшарнікі“ за манархію ў Польшчы.

Партыя так-званых „хрысьціянскіх нацыяналістаў“, гуртуючая перад усім польскіх абшарнікаў, на паседжаньні сваей Галоўна Рады адкрыта заявіла, што галоўным пунктам сваей праграмы ставіць увядзеньне ў Польшчы — дзядзічнай манархіі. У выніку гэтай пастановы прадстаўнікі партыі афіцыяльна ўвайшлі ў „Аб‘яднаньне Польскіх Манархістаў“.

З іншых пастановаў нарады цікаўна дамаганьне „нятыкальнасьці“ зямельных абшараў паноў манархістаў, бо ж гэта—галоўны клопат апошніх!..

### Знаменныя рэзалюцыі групы п. п. Брыля і Домбскага.

2-га сакавіка пачаліся нарады Рады новай сялянскай партыі, арганізаванай п. п. Брылем і Домбскім. Рада прыняла рад вельмі цікавых рэзалюцыяў, якія маюць увайсьці, як падстава, у праграму новай партыі.

Рэзалюцыі, паміж іншым, сьцьвярджаюць, што галоўнай прычынай гаспадарчага крызісу ў Польшчы зьяўляецца—яе мілітарызм і бюракратызм. Дзеля таго, кажуць яны далей, што войны выклікаюць толькі пануючыя клясы, дык дзеля барацьбы з мілітарызмам трэба сялянству, якое першым гоняць на бойню, стварыць міжнародавую арганізацыю (ёсьць ужо такая!), а польскаму сялянству чым хутчэй паразумецца з украінскім і беларускім сялянствам і падтрымаць іх дамаганьні аж да... тэрытарыяльнай аўтаноміі.

Да сучаснага ўраду партыя ня мае ніякага даверыя, дык трэбуе зараз-жа распусьціць Сойм і зрабіць новыя выбары.

Патроху дый паволі разумнеюць соймавыя „павадыры“ польскага сялянства „хлопскім розумэм“—перад выбарамі...

### У Жыдоўскім Коле Польскага Сойму.

У Жыдоўскім Коле Сойму падрыхтоўваецца раскол на 2 групы—угадовую і радыкальна-апазыцыйную. Апазыцыйная пагражае, што, калі на мейсца скампрамітаванага „ўгодай“ з п. п. Скшыньскім і Грабскім пасла Рэйха ня будзе выбраны п. Гартгляс, тады яна выйдзе з складу кола і створыць самастойны клюб.

Навет жыдоўскай буржуазіі не да смаку атручаныя цукеркі „ўгоды“.

### Нядобрая прыкмета.

Ад‘яжджаючы ў Парыж з Польшчы, былы французскі пасол у Варшаве п. Панафье зьбіраўся на „пажэгнальны раўт“, зроблены ў яго чэсьць прэм‘ерам Скшыньскім, ды пасьлізнуўся на паркетнай падлозе ў сваёй уласнай кватэры і зламаў сабе нагу. Пан Пасол меўся на гэтым раўце апошні раз пацьвярдзіць у сваей прамове французкую вернасьць Польшчы і—абяцаньне сталага мейсца ў Радзе Лігі Народаў польскаму прадстаўніку...

### Усьцяж баяцца.

Паведамляюць, што ўжо нарыхтаванае ўзнаўленьне вольнага абмену газэтных тэлеграмаў між ССРР і Польшчай раптам адложана—аж да кастрычніка с. г.

### Маральны развал ідзе далей.

„Gaz. Warsz. Poranna“ падае вестку з Торну (Торуня) аб выкрытых надужыцьцях у адміністрацыі тамтэйшага вастрогу.

У сувязі з гэтым адсунуты ад выпаўненьня абавязкаў начальнік вастрогу Бухнэр і... пракурор торунскага акружнога суда Яніцкі, які аказаўся замешаным у гэтую афэру.

Гэта ўжо трэці прадстаўнік пракуратуры „папаўся“

### Прысуд у справе Бісьпінга.

Ведамы нашым чытачом, асабліва горадзенцам, польскі абшарнік барон Бісьпінг, які судзіўся за забойства свайго сваяка князя Друцкага Любэцкага і сфальшаваньне яго вэксалёў (і... ня судзіўся за забойства сялян, якім пахваліўся на судзе!) пасьля 3-х тыднёвага разгляду справы ў Варшаўскім Апэляцыйным Судзе, засуджаны на 4 гады катаргі з пазбаўленьнем правоў. Але-ж ведама—для гэткіх сымпатычных праступленьняў істнуе амністыя. Дык амністыя на траціну зьменшыла абшарніку-кату, душагубу, і ашуканцу — наложаную на яго і без таго лагодную кару. Суд ветліва запрапанаваў запраўды-ж небясьпечнаму для грамадзянства праступніку — звольніць яго з турмы пад залог у ліку—10.000 злотых—да аканчальнага прысуду ў апошняй інстанцыі.

Так сабе—для прыкладу—прыпамінаем, што на 4 гады быў засуджаны ў Беластоку пасол Баран. А 10.000 залогу патрэбаваў сьпярша віленскі пракурор за звальненьне з пад арышту відаць роўнага з п. Бісьпінгам праступніка — беларускага рэдактара Войціка, якога, пратрымаўшы ў вастрозе (да сухотаў!), штосьць каля 9 месяцаў, пасьля выпусьціў... зусім без залогу.

## Заграніцай.

### Чэшская прэса аб прэтэнсіях Польшчы.

Газэта „Pravo Lidu“ піша, што доказы Польшчы на карысьць сваіх дамаганьняў — вельмі нялоўкія. Нялоўка перад усім лічыць сябе „вялікай дзяржавай“, калі гэтага не прызнае ніхто з іншых дзяржаваў. Нялоўка таксама казаць, што Польшча—добры судзьдзя ў міжнародавых справах, калі Польшча мае сама столькі „чорных пашпартоў“ дый справаў у гэтым Судзе, як справа Вільні, ваенны стан з Літвой і інш.

### Англійскія работнікі аб прэтэнсіях Польшчы.

Былы англійскі прэм‘ер і павадыр англійскіх работнікаў Мак-Дональд у вялікай прамове — у справе пашырэньня Рады Лігі сказаў паміж іншым: „Не магу сабе прадставіць вялікшага дыпляматычнага скандалу, як калі-б у Лізе была зроблена прапазіцыя прыняць цяпер-жа разам з Нямеччынай яшчэ 2 ці 3 новых сталых сяброў Рады—дзеля процівагі Нямеччыне. Бо-ж як толькі Рада пачне дзяліцца на варожыя ці процідзеючыя групы, дык гэта—канец Лігі і—паварот Эўропы да даваеннага стану—раўнавагі“.

Яшчэ цікаўней, што англійскія работнікі рашылі актыўна ўмяшацца ў тайную дыпляматыю буржуазных урадаў і заявіць сваю волю аб—найбольш цесным супрацоўніцтве Англіі з Амэрыкай і Нямеччынай, — без усялякіх іншых „неспадзяванак“ і авантураў. Гэтак 500 тысячаў англійскіх вуглякопаў папросту пагражаюць забастоўкай, калі ўрад будзе нешта круціць у Лізе процi Нямеччыны.

### Кітай процi Польшчы.

Кітайскі дэлегат у Лізе Народаў заявіў, што процi ўваходу Нямеччыны на сталае мейсца ў Раду Лігі ён ня мае нічога. Але, калі будуць выстаўлены і іншыя кандыдатуры ў Раду, тады Кітай выставіць і сваю.

### Лёкарнскія Трактаты ў французскім парляманьце.

У французкім парляманьце, таксама, як і ў Польскім Сойме, адбываецца гарачая дыскусія над ратыфікацыяй Лёкарнскіх Трактатаў. Апазіцыя рэзка крытыкуе ўрад за тое, што ўва ўсіх спорах з Англіяй Францыя толькі робіць уступкі.

Адказываючы на гэтыя закіды, Брыян казаў, што наадварот — гэта-ж Францыя заўсёды змушае Англію да ўступак... „Лёкарно“.

### „Лёкарно“ і французскі мілітарызм.

Напярэдадні рашучага бою між Брыянам і Чэмбэрленам у Жэневе французскі генаральны штаб апублікаваў сэнсацыйны праект узмацненьня французскага мілітарызму, скіраванага—„у духу Лёкарно“ — процi Нямеччыны. Плян гэты прадугледжывае аб‘яднаньне ўсіх збройных сілаў Францыі — краёвых і каляніяльных—у адзіную арганізацыю. У справе перавозкі каляніяльных войск да краю маюць быць падпісаны спэцыяльныя ўмовы з Гішпаніяй і Італіяй. Матывуючы гэты плян, уся прэса сцьвярджае, што „Лёкарно“—гэта небясьпечная спроба, пакуль Нямеччына не разброена маральна і аружна. Францыя павінна быць моцнай, каб у выпадку нямецкай атакі на Польшчу ў кожны мамэнт даць ёй помач. Францыя змушана бараніць тэрытарыяльныя пастановы Трактатаў (Вэрсальскага і іншых) — з карабінам у руках. Вось, табе і „Лёкарно“!..

Газэта „Temps“ піша папросту, што над Нямеччынай трэба заўсёды трымаць бранiраваны кулак, як толькі-што даў прыклад гэтага—Мусоліні.

### „Новая Антанта“.

Парыжскія газэты фантазуюць з прычыны канфэрэнцыі міністра замежных спраў Югаславіі з Мусоліні ў Рыме. Быццам Югаславія з Італіяй заключылі дагавор аб недапушчэньні злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай і аб стварэньні нейкай — „Новай Антанты“, зложанай з Італіі, Югаславіі, Чэха-Славакіі і Польшчы. Праз гэту „антанту“ будзе ўплыў самога Мусоліні бараніць... мір у Эўропе!..

### Чаму Мусоліні—процi далучэньня Аўстрыі да Нямеччыны.

Англійскія газэты даведаліся, што Мусоліні націскае на ўрад Югаславіі, каб той рашуча падтрымаў акцыі Італіі процi злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай, адначасна высоўваючы праект падзелу Аўстрыі між Італіяй, Югаславіяй і—зразумела—трохі і Нямеччынай.

### Узнаўленьне французска-радавых перагавораў.

На першым паседжаньні французска-радавай канфэрэнцыі ў справе ўзнаўленьня эканамічных зносінаў старшыня французскай дэлегацыі сэнатар дэ-Монзі заявіў, што з боку Францыі высоўваюцца 2 галоўныя дамаганьні, спаўненьне якіх Радамі адбудуе і адчыніць для праезду ўсе былыя масты між абыдвума краямі. Гэтыя дамаганьні няўмешваньне ў унутраныя справы Францыі (адмова ад агітацыі) і ўрэгуляваньне даўгоў—прынамся дробных крэдытараў былой царскай Расеі. У адказ на гэта старшыня радавай дэлегацыі выразіў здаваленьне „рэалізмам“ французскай дэлегацыі, заявіўшы, што гэткія яе ўмеркаваныя трэбаваньні хутка дапамогуць адбудове ўсіх мастоў.

Вельмі важна падчыркнуць перамогу радавага пункту гледжаньня—у выніку доўгага перарыву перагавораў: французская дэлегацыя гавора ўжо толькі аб дробных уласьніках былых расейскіх цэнных папераў, сплаціць якіх і раней згаджаўся радавы ўрад.

### Новы „шах“ Англіі з боку Францыі.

Францыя вельмі лоўка „зашахавала“ Англію, падпісаўшы толькі-што ваенна-эканамічную ўмову з Турцыяй. Умова дае Францыі вельмі важныя карысьці перад усім на лініі знамянітай, пабудаванай Нямеччынай (для сябе—каб зашахаваць Англію ў Індыі...), Багдадзкай чыгункі. За гэта Францыя абязалася перад Турцыяй захаваць „нэйтралітэт“ (ведама-ж — з дастаўкай аружжа...) на выпадак вайны. З кім-жа мае Турцыя ваяваць? Ды ведама-ж: з Англіяй—аб Мосуль...

Французска-турэцкая ўмова выклікала страшэннае абурэньне ў Англіі... Англійская прэса трэбуе ад ураду рашучага пратэсту процi гэтага дагавору, не дазваляючага Англіі перад усім мець кантроль над перавозкамі турэцкіх войск па Багдадзкай чыгунцы, што зьяўляецца заўсёднай пагрозай панаваньню Англіі ў Індыі — праз Пэрсідзкую затоку.

### Безрабоцьце ў Англіі зьмяншаецца.

На 15-га лютага лічба безработных у Англіі была 1 мільён 139 тысяч. За апошні тыдзень гэтая лічба зьменшылася на 25 з паловай тысяч. А за ўвесь мінулы год зьмяншэньне дайшло да 120.500 асоб.

### Зьліквідаваньне справы забойства радавых кур‘ераў.

Рыжскія газэты падаюць, што канфлікт, выкліка-

# Суд над ксяндзом-беларусам.

Як мы ўжо падавалі, 1-га марца ў Віленскім Акружным Судзе распачаўся разгляд справы беларускага нацыянальнага дзеяча Кс. Гадлеўскага. Старшынстваваў на судзе судзьдзя Овсянко, сталы старшыня ўсіх даразных судоў, канчаючыхся пераважна сьмяротнымі прысудамі. Баранілі кс. Гадлеўскага адвакаты-паслы Сьмяровскі і Лібэрман, абодва прадстаўнікі польскае радыкальнае дэмакратыі.

Суд адбываўся пры зачыненых дзьвярох. У салю суда быў дапушчаны, як „муж даверыя“ падсуднага, пасол кс. Станкевіч. З другога боку, як „муж даверыя“ пракуратары, быў дапушчаны ведамы „доктар“ Павлюкевіч, які і сядзеў разам з начальнікам дэфэнзывы і агентамі палітычнае паліцыі....

Разам з кс. Гадлеўскім судзілі і грам. Рагача. Абодвух вінавацілі ў „антыпаньствовай“ агітацыі—на карысьць незалежнасьці Беларусі і за адарваньне Заходняе Беларусі ад Польшчы.

Суд закончыўся 2-га сакавіка ў 2 гадзіны папал. абвяшчэньнем прыгавору, якім кс. Гадлеўскі прызнаны вінаватым у падбураньні людзей у прыватных гутарках да паўстаньня, да адарваньня Зах. Беларусі ад Польшчы і стварэньня незалежнае Беларусі. Абвіненьне, якое паўтараецца бадай ў-ва ўсіх палітычных працэсах беларускіх нацыянальных дзеячоў..... За гэта кс. Гадлеўскага засудзілі на два гады крэпасьці. Грам. Рагач судом апраўданы.

Мы ня ведаем, на падставе якіх даных і доказаў суд прыйшоў да пераканаўня аб „праступнасьці“ нацыянальнае працы кс. Гадлеўскага, які, як каталіцкі ксёндз, хіба-ж ня мог агітаваць за паўстаньне, бо гэта нязгодна з духам каталіцкае царквы. Нам ведама толькі тое, што кс. Гадлеўскі вёў рашучую, упартую барацьбу за правы беларускае мовы ў каталіцкім касьцёле і гаварыў казаньні пабеларуску.... Відаць, і абаронцы — палякі і паслы польскага Сойму — інакш, чым суд, глядзяць на пытаньне аб віноўнасьці кс. Гадлеўскага, бо абодва заявілі, што прыедуць ізноў у Вільню бараніць гэтага беларускага дзеяча ў апэляцыйным судзе—і таксама бясплатна, як гэтым разам баранілі.

На просьбу абароны суд пастанавіў звольніць кс. Гадлеўскага пад залог у ліку 2,000 злотых, якія ўраз-жа былі сабраны і паложаны прысутнымі.

У судовым гмаху—перад дзьвярыма суда — сабралося каля другое гадзіны да сотні прадстаўнікоў беларускага грамадзянства і моладзі — з кветкамі, каб прывітаць кс. Гадлеўскага. Убачыўшы кветкі і зразумеўшы, у чым справа, паліцыя выгнала ўсіх на вуліцу. Але тут—на вуліцы і на Лукішскім пляцу—чакала ўжо ня сотня, а колькітысячная грамада народу, зложаная з работнікаў, мяшчан і інтэлігенцыі, якія, даведаўшыся аб судзе, пасьпяшылі выказаць свой спогад нацыянальнаму барацьбіту. Пешая і конная паліцыя пробавала разагнаць народ, але дарэмна: ніхто не скрануўся з мейсца—ўсе чакалі выхаду кс. Гадлеўскага.

Урэшце засуджаны паказаўся ў дзьвярох суда. Тут яму былі пададзены кветкі, і, як ён пайшоў па Сьв.-Юраўскім праспэкце (вул. Адама Міцкевіча) уся гэная таўпа рушыла сьледам за ім. Гэтак сам сабой стварыўся дэманстрацыйны паход, як першая ў Вільні чыста беларуская нацыянальная маніфэстацыя.

Агенты палітычнае паліцыі кідаліся да кс. Гадлеўскага з лаянкай, і толькі прысутнасьць некалькіх беларускіх паслоў перашкодзіла горшым зьдзекам над засуджаным.

Усе патугі конных і пешых паліцыянтаў спыніць паход нічога не дапялі. Маніфэстанты прайшлі ў поўным парадку і супакою праз увесь праспэкт і разыйшліся толькі тады, калі кс. Гадлеўскі сеў на возьніка і паехаў да сябе.

Як відаць, у „чыста-польскай“ Вільні ёсьцьтакі глыбокія беларускія карані, якія так буйна выбіваюцца наверх, ня гледзячы на ўсю казённую польскасьць нашае адвечнае сталіцы!.....

ны забойствам радавых кур'ераў, між ССРР і Латвіяй, ужо зьліквідаваны. Урад ССРР прызнаў быццам здавальняючымі тлумачэньні і распараджэньні латвійскага ўраду.

### Бягуць з пад румынскай баяршчыны.

Радавыя газэты пішуць аб масавым уцяканьні бэсарабскага насяленьня ў ССРР. Карыстаючыся з таго, што зімой Днестр замёрз, украінскія сяляне бягуць цэлымі сем'ямі. Гэтае зьявішча адбываецца на ўсім працягу Днястра — ад Акерманскага заліву да Магілёва. Сялянства кідае сваю зямлю, дабро і бяжыць з жонкамі і дзяцьмі —спад баярскага ярма ў ССРР. За адзін апошні месяц прыбыло на тэрыторыю Радаў больш за 3.000 бежанцаў. Нядаўна партыя бежанцаў з 40 душ амаль не ўтанула ў рацэ пад падламаўшымся лёдам.

Прыбыўшыя проста заяўляюць, што ня могуць вытрымаць баярскага гвалту і ўціску...

„Увесь культурны сьвет ужо (дзе, калі?!) пратэставаў проці насільля ды цэлай страшэннай сыстэмы ўпраўленьня паўдзікага цыганскага племеньня ў Бэсарабіі і Букавіне, але ўсе пратэсты ня мелі значэньня“,—канчае, падаўшы гэтыя весткі, „Діло“. Так званы „культурны сьвет“—якраз і зацьвярдзіў бяспраўны захват Бэсарабіі румынамі... А што „разрахунак прыдзе“, дык гэта — бясспрэчна...

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Усьцяж ідзе вялікая лічба народнай арміі з войскамі Чанга. Баі ідуць за валаданьне Цянь-Дзінам. Адначасна Чанг іншым войскам вядзе наступленьне на Пэкін.

### Бунт вязьняў у Шанхайскай турме.

Паслухайце толькі... 100 кітайцаў — вязьняў прабавалі ўцячы з... францускага (!) вастрогу ў Шанхаі. Тады паліцыя (француская!) ўвайшла ў вастрог і ў часе „ўсьмірэньня“ бунту забіла 5 і раніла 11 вязьняў...

Дзе-ж гэты Шанхай, запытаецца кожны?! — Пэўне ў Францыі?!—Не, паночкі: Шанхай — гэта адно з найвялікшых местаў „незалежнага, сувэрэннага“ Кітаю...

Дык разумееце цяпер, чаму гэта кітайцы хочуць выгнаць чужаземцаў з свайго краю...

# ХРОНІКА.

**Паведамленьне.** Беларускае Выдавецкае Т-ва гэтым даводзіць да ведама ўсіх сваіх грамадзян: заінтэрэсаваных асобаў, што „Беларуская Кнігарня“ з днем 1 сакавіка г. г. перанесена з Завальнай вул. № 7 на Гэтманскую 2, рог Вострабрамскай № 1.

У зьвязку з гэтым пакінуў працу ў Кнігарні яе загадчык гр. Станіслаў Станкевіч, на места жа загадчыка „Беларускай кнігарні“ вызначаны Таварыствам гр.—Ігнат Мятла.

Тым самым трацяць сілу тыя паўнамоцтвы, якія былі ў свой час дадзены гр. Станіславу Станкевічу Урадам Таварыства.

**Белар. Выдавецкае Таварыства.**

**Рэдакцыя „Маланкі“** ад 1 сакавіка перанесена на Віленскую 12, кв. 6, куды належыць адрэсаваць пісьмы і грошы за падпіску.

**Чародная публічная лекцыя.** Лекцыі, ладжаныя Беларускім Студэнцкім Саюзам, абыймаюць усё шырэйшы круг тэмаў. Гэтак, пасьля раду лекцыяў, пераважна літэратурнага і гістарычнага характару, чародную лекцыю прачытае грам. А. Трэпка на тэму: **Машына ў жыцьці чалавецтва.**

Лекцыя, як і папярэднія, адбудзецца ў салі Віл. Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9), — ў гэтую нядзелю, 7 марца, у 4 гадз. папал.

Уваход вольны і бясплатны.

**Літоўскія дамаганьні.** Як ведама, адносіны польскае ўлады да літоўскае люднасьці, якая апынулася ў межах Польскае Рэспублікі, — зусім такія-ж, як і да беларусаў. Аб гэтым гавора мэморыял, які толькі-што пададзены польскаму ўраду Часовым Літоўскім Камітэтам у Вільні.

Дамаганьні літвіноў—дужа скромныя. Адносна да сярэдніх школаў (прыватных) яны просяць наданьня ім правоў, дазволу выкладаць усе прадметы, апрача польскіх, у роднай мове, дапушчэньня здачы экзаменаў на атэстат дасьпеласьці ў той-жа літоўскай мове і... невыкіданьня вучыцялёў, якія „ня маюць абыватэльства“.

Адносна да прыватных пачаткавых літоўскіх школ—просяць таксама не рабіць труднасьцяў і прычэпак вучыцялём, спыненьня і зачыняньня літоўскіх школ там, дзе ўрад адчыняе (нет ведама для каго!) польскія казённыя школы, ды—дапамогі з дзяржаўнага скарбу літоўскім школам на тых-жа варунках, як даецца польскім прыватным школам.

Гэтыя слушныя і вельмі скромныя дамаганьні выклікалі ў польскай нацыяналістычнай прэсе дзікі гвалт і нягодныя лаянкі.

**Украінскі вечар.** У нядзелю, 7 марца, у салі Інвалідаў (вул. Ад. Міцкевіча 33) адбудзецца вечар на карысьць праваслаўнага прытулку пры Сьв.-Духовым манастыру. У праграме—ўкраінскі спэктакль, хор, танцы на сцэне і агульныя танцы ў салі.

**5555.** Гэта—лічба безработных места Вільні ў апошнім тыдні, у тым ліку 4.406 мужчын і 1.149 жанчын.

**Афіцыяльны курс грошы на 5 сакавіка.** Даляр — 7 зл. 58 гр. Залаты рубель — 3 зл. 89 грошы.

# З жыцьця Горадні.

### Мітынг перад выбарамі да Касы Хворых.

14 лютага 1926 г. ў салі „Клюбу чыгуншчыкаў“ адбыўся мітынг Рады Клясовых Прафэсыянальных Саюзаў м. Горадні.

Прысутных было каля 1000 работніц і рабочых, абясьпечаных у Касе Хворых.

Мітынг адчыніў сябра выбарнага камітэту Гонэрко, які вітаў з'явіўшыхся работнікаў і ўтварыўшыся адзіны фронт работнікаў па выбары да Касы Хворых.

Першае слова было дадзена кандыдату да ўраду Касы Хворых Мікалаю Якімовічу (кандыдату ў Сойм ад Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады), які гаварыў пабеларуску. Спаткалі работнікі М. Якімовіча бурнымі воплескамі.

Грам. Якімовіч гаварыў аб неабходнасьці заваяваньня Касы Хворых работнікамі, гаварыў аб тых замахах, якія робіць на Касу Хворых буржуазія, і заклікаў, каб работнікі дружна галасавалі за № 5, кандыдаты якога будуць дамагацца:

1. Каб Урад Касы Хворых складаўся выключна з прадстаўнікоў забясьпечаных работнікаў фізычных і ўмысловых.

2. Каб увесь цяжар утрыманьня Касы Хворых ускладаўся выключна на працадаўцаў.

3. Каб падчас хваробы работнікам выплачываны былі 100% дапамогі замест 60%.

4. Каб была апека Касы Хворых на чыгункавых работнікаў, сялян, лясных, таксама і на безработных.

5. Каб дапамога для работнікаў лічылася ад пачатку хваробы да поўнага выздараўленьня.

6. Каб было ўведзена поўнае сцэнтралізаваньне ўсіх грамадска-сацыяльных забясьпечаньняў, як напрыклад: на старасьць, ад калецтва, безрабоцьця і забясьпечаньня ўдоў і сірот.

7. Каб работнікі, забясьпечаныя ў Касе Хворых, маглі карыстацца ў зносінах з дахтарамі і адміністрацыяй роднай мовай: польскай, беларускай, жыдоўскай і расейскай.

8. Каб Рада Касы Хворых і выдзелены ею Урад утрымлівалі заўсёды сьцісла кантакт з масамі забясьпечаных у Касе Хворых работнікаў; гэтым самым даць магчымасьць пазнаёміцца з дзеяльнасьцяй Касы Хворых і выслухаць усе дамаганьні і балячкі работнікаў.

9. Каб былі пашыраны правы для няпоўналетніх забясьпечаных у Касе Хворых.

10. Каб Каса Хворых распачала энэргічна і інтэнсыўна барацьбу з ворагам пралетарыяту — сухотамі.

11. Каб былі праведзены прапаганда і надзор над гігіенай працы, а таксама кантролю ў гэным кірунку працы.

12. Каб былі арганізаваны Касай Хворых летнія калёніі для дзяцей, забясьпечаных у Касе Хворых, арганізаваны дзіцячыя госпіталі, малочныя станцыі для матак і падкармліваньні хворых дзяцей.

Гр. Якімовіч заклікаў, каб пад гэтымі лёзунгамі была злучана ўся кляса работнікаў Горадні і Крынак, усе клясовыя арганізацыі і ўсе сьвядомыя работнікі.

Пасьля прамовы Якімовіча пасыпаліся гучныя воплескі.

Потым выступіў сябра Выбарнага Камітэту гр. Эпштэйн, які заявіў, што хоча гаварыць пажыдоўску. Але-ж старшыня мітынгу і кандыдат да Касы Хворых Гонэрко (П.П.С.) заявіў, што жыдоў тут вельмі мала, дык—ён лічыць немагчымым, каб гаварыць пажыдоўску. Аднак, сабраныя работнікі рашуча патрэбавалі, каб дазволена было гаварыць пажыдоўску, і гр. Эпштэйн гаварыў пажыдоўску, а пасьля зрабіў пераклад на польскую

## Куток наймалодшых.

### Вясна.

Кап... кап... кап... хлюпаціць вада...
Сьвятлом электрыкі заліты тротуар...
У кожнага вясёлы, ветлы твар...
Ужо вясна!

Разьбіла кайданы жыцьця—
І першых, раньніх красак лёгкі пух
Раскінула на места шэры брук...
Ужо вясна!

Ўзышлі яны ў пастаці дня,—
Настрою жыхараў і песьняў аб прасторы...
І кожны хоча жыць! забыць аб горы!!
Ужо вясна!

17./II. 1926 г. **Ів. Ільяшэвіч.**

### У цішыне.

Я люблю улетку слухаць цішыню,
Калі маё сэрца ціха заміpae,
Калі дух нясецца дзесь у вышыню,
Калі мне на ліры хтось ў душы іграе.

Зазьвіняць, пальлюцца гукі і акорды,
І прачнецца сумны, цёмны бор стары,
Вылязе пануры, недаступны горды,
Чарвячок да сонца з дрэва з пад кары.

Ў гэткія часіны радасьці й пакою
Я гатоў ад сэрца ўсіх людзей кахаць,
Гэтае каханьне з радаснай сьлязою
На вачох заўсёды я ахвоч спаткаць.

2./VII. 1925 г. **А. Салагуб.**

### Адказы.

Разьдзяры грудзей аслону,
Прытулі да сэрца вуха:
І паслухай сэрца тону,
Толькі ўважна там паслухай...
Там паслухай і ўважай...
Больш мяне ўжо ня пытай.

Распрані дачыста цела—
Там ёсьць доказ нефальшывы,
А паверыш, як балела
Ў падзямельлі дэфэнзывы...
Там глядзі і разважай...
Больш мяне ўжо ня пытай.

Прыгатоў на крыж калоду
Й разьдзяры на ёй цьвякамі
Найвялікшага з Народу—
А ня ўбачыш сьлёз між намі...
А чаму?—то сам пазнай...
І мяне больш ня пытай.

16./XII. 1925 г. **Васіль Горны.**

мову. У сваей прамове падчыркнуў здабыцьце Касы Хворых, цяжкі стан работнікаў, імкненьне буржуазіі аб скасаваньні 8 гадзін. дня працы і заклікаў усіх работнікаў галасаваць за № 5.

Далей прамаўлялі Фінк (пажыдоўску), Тэрлецкі і Скаўроньскі (папольску). Закончыў мітынг Гонэрко (папольску), які заклікаў, каб усе аб'ядналіся, і запрапанаваў рэзалюцыю, у якой рабочыя вітаюць супольны клясавы фронт працоўных. Рэзалюцыя прынята аднагалосна.

### Вынікі выбараў у Касу Хворых у Горадні.

21 лютага 1926 г. адбыліся выбары ў Касу Хворых м. Горадні і м. Крынкі, Горадзенск. пав.

Пададзены былі 7 сьпіскаў, з якіх № 5 быў сьпісак Рады клясовых прафэсыянальных саюзаў м. Горадні, дзе ўсе нацыянальнасьці — беларусы, палякі і жыды, а таксама ўсе палітычныя ўгрупаваньні — аб'ядналіся і йшлі адзіным фронтам — работніцкім клясавым фронтам.

Вынікі галасоў на выбарах гэткія:

| № № | НАЗОУ СЬПІСКАУ | Лік атрым. галасоў | Колькі мандатаў |
|---|---|---|---|
| 1 | Група сыяністаў . . . . . . | 59 | 1 манд. |
| 2 | Польская група дэмакратычных працаўнікоў, забясьпечаных у павятовай Касе Хворых у Горадні . . . . . . . | 250 | 4 „ |
| 3 | Выбарны камітэт хрысьціянскіх працаўнікоў (хадэкі) . . | 290 | 5 „ |
| 4 | Жыдоўскі камітэт беспартыйных работнікаў фізычных і ўмысловых . . . . . . . . | 49 | — |
| 5 | Рада клясавых прафэсіян. саюзаў м. Горадні . . . . . | 1092 | 19 |
| 6 | Жыд. забясьпечаных умысловых працаўнікоў (жыдоўская дэмакр. інтэлігенцыя) . | 95 | 1 „ |
| 7 | Працаўнікоў паньств. тытуновай фабрыкі . . . . . . . | 49 | — |
| | РАЗАМ . . . . . | 1884 | 30 м. |

Як бачым дык работнікі на выбарах да Касы Хворых перамаглі і работніцкі клясавы сьпісак № 5 атрымаў, 19 мандатаў. За гэтым сьпіскам

стаялі гэтакія палітычныя ўгрупіроўкі 1) Белар. Грамада і лявіца (блёк)—6 мандатаў; 2) Бундоўцы—5 мандат.; 3) П.П.С.—6 мандат. і 4) вайсковыя майстроўні—2 мандаты,—разам 19 манд.

Страшэнна хадэкі ўзбураны перамогаю рабочай групы № 5 і стараюцца, каб былі зроблены перавыбары, але-ж павінны сабе хадэкі ўцяміць, што рабочы ўжо ня той і на абман іх ня пойдзе, а ў выпадку, калі гэтыя выбары будуць уняважнены, дык і другі раз напэўна работнікі перамогуць і атрымаюць балей, як цяпер.

**Нёман.**

# Карэспандэнцыі.

## Б' Ю Ц Ь.

(Чамерская гм., Слонімскага пав.).

30 кастрычніка 1925 г. быў забіты лясьнічы Кокошчынскага лясьніцтва пана Чапскага ў г.-з. „Гаеўцы“.—Пасьля гэтага пашлі масавыя арышты тых асоб, на якіх гэты лясьнічы за-жыцьця напісаў пратакол за лясныя справы. 3.XI.25 г. камандант Азярніцкага пастарунку арыштаваў Мікалая Дабрыяна з в. Какошчына, Чамерскай гм. — арыштаваў таму, што М. Дабрыян меў пратакол за лясныя справы.—На пастарунку над арыштаваным паліцыянты і шпік немагчыма зьдзекаваліся і білі, дамагаючыся, каб сказаў, што ён забіў, або каб паказаў на каго другога.

6.XI. выклікалі сьведкаў; — сьведкі паказалі, што Мік. Дабрыян у дзень забіцьця быў у сябе дома.—Паліцыя не паверыла. А за тое, што „блага паказвалі“, сьведкі Сьцяпан Дабрыян і Васіль Дабрыян страшна былі зьбіты кіём,—біў Азярніцкі камандант.

7 і 8. XI. М. Дабрыяна па 5—6 разоў у дзень „бадалі“—страшна біўшы і зьдзекаваўшыся.

9. XI. атправілі М. Дабрыяна ў Слонім, скуль 10. XI. следавацель пасьля дапросу звольніў.

8. XI. у в. Какошчына прыехалі 9 паліцыянтаў і шпік; рабілі вобыскі і нічога не знайшлі. — Дабіраліся да солтыса, — але солтыс быў у гміне. Арыштавалі толькі Фэкціста Сакалоўскага, якога, моцна зьбіўшы на пастарунку, выпусьцілі. — З гміны забралі солтыса; як забіраў паліцыянт яго, то войт з пісарам, сьмяючыся, сказаў: „ну, дадуць, так дадуць“,—мусі ведалі за што.—Аб забойстве лясьнічага Ф. Сакалоўскі нічога ня мог сказаць;— дык яго, зьбіўшы, кінуўшы на зямлю і ўзяўшы за валасы, камісар Слонімскай паліцыі да паўсьмерці зьбіў галавою аб сьцены!

Няпрытомнага солтыса адправілі ў гміну; — там, як прышоў ён да памяці, падыйшоў да яго Азярніцкі камандант і над ляжачым яшчэ на зямлі пачаў трасьці кулакамі, крычучы: „гэта за тое, што ты нарабіў у старостве“!

Дык што-ж ён нарабіў?

А вось што.—Гміна прыслала ў в. Какошчыну на 50 зл. болей падатку, чым прыслала староства, дык А. Дабрыян, як сумленны солтыс, зьвярнуўся ў староства па выясьненьні. І за гэта так быў „пакараны“...

**Селянін.**

2. XII. 25 г.

## Абдзіраюць.

(Марынская гм. Слонімскага пав.).

Вёскі нашы папалены вайной, калодзежы таксама.—Людзі жывуць у зямлянках.—без кароў, бяз коней, бяз хлеба — галадуючы. А калі маеш якую залатоўку, дык з горла возьмуць на розныя „навінкі“.

Прыслалі з староства нам бляшаныя дошчачкі да вазоў, і хто мае, ці хто ня мае—плаці злот; навет хто ня мае воза і каня, — калі прыслалі з староства і там напісалі, —дык мусіш браць і плаціць, а не—дык пратакол!

Мінулася гэтае,—прыслалі гэтакія-ж дошчачкі да хатаў, і хоць ты ў зямлянцы жывеш, — а бяры і плаці злот; калі маеш другую дзеравяную, — усё роўна бяры, бо-ж у старостве пісалі іх і староства траціць ня будзе, — а не — дык ізноў пратакол!

Калодзежаў нат' гэтулькі, колькі было да вайны, ня трэба, бо няма гэтулькі жывіны; — калодзежы вайной папалены і паразвальваны. — Загад: паправіць, паставіць бабы, прыкаваць вёдры, паставіць карыты. а не—дык без канца пратакол і такая лаянка, што сорам успомніць,—а паліцыянту гэта звычайныя словы; дэмаралізуюць толькі нашых дзяцей.

Яшчэ кажуць, што староства мае прысланць нам лятарні да вазоў па пяць злотых, — ну гэта дык зусім зруйнаваньне!

**Змагар.**

## Праваслаўныя папы ў ролі даношчыкаў.

(З Нясьвіжскага пав.).

21 студня 1926 году недалёка ад вёскі Лукі, Жухавіцкае гміны, Нясьвіжскага павету, на шляху ў мястэчка Мір былі вывешаны два чырвоныя сьцягі з камуністычнымі лёзунгамі (гэткія сьцягі вывешваліся ў шмат другіх мясцох). Акрамя таго ў вёсцы Лукі і ваколіцах былі параскіданы камуністычныя адозвы ў польскай і беларускай мове.

23 студня ў вёску Лукі прыяждаў сьвяшчэньнік з вёскі Даўматаўшчына, таго-ж прыходу, Жухавіцкае гміны, да польскага настаўніка ў вёсцы Лукі — прасіць яго ў госьці. Калі сьвяшчэньнік даведаўся ад вучыцеля аб гэткім здарэньні, дык тут-жа пачаў тлумачыць, што гэта ўся работа Сьцяпана Сака, грамадзяніна вёскі Лукі. Даўматаўскі сьвяшчэньнік „ня мае вока“ на Сьцяпана Сака за „Закон Божы“, што быццам той падаў карэспандэнцыю ў газэту „Беларуская Ніва“, дзе было сказана, як сьвяшчэньнікі вучаць дзяцей у польскіх школах беларускай мовы.

Прыехаўшы ў Даўматаўшчыну, сьвяшчэньнік напісаў у Жухавіцкі пастарунак паведамленьне аб процівапаньствовым выпадку, дзе Сьцяпана Сака паставіў кандыдатам у „вінавайцы“ гэтага.

24 студня г. г. ў вёску Лукі зьявіўся камандант Жухавіцкага пастарунку і вызваны з Нясьвіжа вывядовец-сышчык. Панюхаўшы крыху па вёсцы, як заўсёды вядзецца, направіліся ўдом Сака, які ў той дзень быў у Міры на кірмашы. Ня гледзячы на тое, што „вінаватага“ ня было дома, камандант з тоўстым сышчыкам пачалі вобыск. Пэратрасьлі ўсе манаткі, але мусіць нічога не знайшлі. Мусіць, бо Сака не заарыштавалі і нат' нічога ня дапытваліся пры сьпісываньні пратаколу, а штосьці напісалі, падпісаліся і паехалі. Камандант толькі сказаў, што гэта вінават даўматаўскі сьвяшчэньнік, які яго падазравае.

Пратаколу Сак не падпісваў, але мусіць яму прыдзецца падпісваць другім разам, бо камандант, адяжджаючы, сказаў: „Памятай Сак, ты доўга не пражывеш на сьвеце, за табой многа грахоў“.

Галоўные грахі Сьцяпана Сака—барацьба за беларускую школу і беларускі народ.

Добра спаўняе даўматаўскі сьвяшчэньнік заветы Хрыста.

**Хмурны.**

## „Навука гудзець“.

(Лідчына).

У в. Агароднікі да 1923 г. была сякая-такая школа. Бывала, дзеці зьбяруцца, ды хоць пагуляюць. Дый большыя хадзілі да вучыцелькі на курсы ўвечары. Але пераехала гэтая вучыцелька ў Ганцавічы. Дзеці пахадзілі год у Ганцавічы і перасталі.—Кажуць, у школе кароставых коней лечаць,—яшчэ заразяцца! Вучыцелька пажалілася— прыехаў інспэктар; інспэктару сказалі тое-ж самае. Інспэктар паехаў, а школы і да цяпер няма.

Хлапцы, замест каб вучыцца, — разьбіваюць адзін другому каменьнямі патыліцу.

А падаткі на школу плацім!

**М. Праўда.**

## Новыя парадкі.

(Сабакінская пошта, Лідзкага пав.).

Пакуль заведаваў у нас поштай пісар Дабрылко, то было добра і парадак, як стаў — паштаром арганісты, то насталі новыя парадкі. Спачатку, што праўда, было добра—прыбіў скрыначку і пошту аддаваў,—але потым дык ня тое!—Газэт беларускіх не аддае, трэбуе, каб паказалі квіток, што аплацілі грошы ў рэдакцыі „Беларуская Ніва“.

Падпішчыкі Сабакінскай пошты атрымалі толькі першыя №№ „Беларускай Нівы“, апошніх-жа дык ніхто. Газэты нашы шмат хто бачыў 16.II.26 г. ў каапэратыве „Jedność“ з паадрыванымі адрэсамі.

Падпішчыкі Люткевіч і Грышута даведваліся ў крамара Снацкага, дзе ён іх узяў, а ён адказвае, што з Ліды „пудамі купляе“.—Але ясна, што на Сабакінскай пошце наш арганісты гэта „надужыва“!—Уляціць, пане, як зьбярэм факты!

**Р.**

# З Радавае Беларусі.

## Дзіцячыя пляцоўкі.

Менскі Акружны Аддзел Народнай Асьветы ўлетку зрабіў спробы арганізацыі дашкольных выхаваўчых устаноў за кошт грамадзкай ініцыятывы. У выніку гэтага ў Менску арганізавана 12 дзіцячых пляцовак, якія ахапілі сваёй працай звыш 360 дзяцей.

## Лік вучняў, прынятых у школы.

Да пачатку заняткаў у Менскія 7-х годкі прынята—3.752 вучні. У гэтым ліку дзяцей сяброў саюзу — 2.050 чал., дзяцей саматужнікаў—206 чал., сялянскіх дзяцей—340 чал., і іншых—1156 чалавек.

## Прафэсыянальная кансультацыя.

Псыхотэхнічная лябараторыя пры асацыяцыі „НОТ“ (навуковая арганізацыя працы) пры Інстытуце Беларускай Культуры адчыняе ў бліжэйшым часе прафэсыянальную кансультацыю.

Усякі рабочы, служачы, вучань і г. д. можа атрымаць параду, у якой прафэсіі ён змог-бы найкарысьней працаваць па сваіх прыродных здольнасьцях.

## Посьпехі аграноміі і тэхнікі.

Па вестках Наркамзему (народнага камітэту земляробства), лік пракатных пунктаў у Беларусі за апошні год узрос з 65 да 117. У сучасны мамэнт робяцца захады пляновага засеву палёў у наступную вясну ачышчаным насеньнем.

Побач расьце ўжываньне сялянствам машын. У 1924 годзе ў БСРР было прадана машын на суму да 600.000 руб., а ў 1925 г.— больш як на 1.300.000 р.

## Аб лясох мясцовага значэньня.

З прычыны атрыманьня сялянствам БСРР значных лясных плошчаў (лясоў мясцовага значэньня), Наркамзем выдаў па акругах наказ, згодна якога сячы лес можна толькі з 1-га верасьня да 1-га траўня. Высечаная дзялянка павінна быць ачышчана ад гальля. сукоў, шчэпак і рознага лому не пазьней 15 траўня.

Далей, павінна быць праведзена ахова лесу ад самавольных парубак, патраў, лясных шкодаў і неарганізаванай пашы скаціны.

## Рынaчныя цэны.

**Цэны на сялянскія прадукты ў Менску ў сярэдзіне студзеня былі гэткія:**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пшаніца . . . . . . . | 1 | руб. | 60 | кап. | пуд. |
| Жыта . . . . . . . . | 1 | „ | 40 | „ | „ |
| Авёс . . . . . . . . | 1 | „ | 10 | „ | „ |
| Ячмень . . . . . . . | 1 | „ | 25 | „ | „ |
| Льняное насеньне . . | 1 | „ | 90 | „ | пуд. |
| Бульба . . . . . . . | 1 | „ | 40 | „ | асьміна. |
| Яйца . . . . . . . . | | — | 60 | „ | за 10 шт. |
| Сена . . . . . . . . | 1 | „ | — | „ | пуд. |
| Салома . . . . . . . | | — | 50 | „ | „ |
| Аўчынка сырая . . . . | 2 | „ | 75 | „ | штука. |

# Юрыдычныя парады.

### Грам. Ладнаму.

*Запытаньне*: Па сьмерці гаспадара ў 1922 г. засталіся: ягоная жонка, два сына, дачка не замужняя і нявестка-ўдава, жонка старэйшага сына. Удава маець чацьвёра дзяцей. Зямлі ў нас купленай 10 дзесяцін. Купчая зроблена на бацьку, але яна аказалася ў удавы. На якую частку зямлі пры падзеле маець права маці ўдава, мы сыны і наша сястра?

*Адказ*: Маці і дачка маюць права па $^{1}/_{7}$ частку кожная; рэшта дзеліцца на роўныя часткі паміж сынамі і сям'ёй памершага сына. Так, што кожнаму сыну выпадзець па $^{5}/_{21}$.

### Б. Варэніку.

*Запытаньне*: У 1918 г. бацька падзяліў зямлю ў ліку $3^{1}/_{2}$ дзесяцін на 2-х сыноў і сябе з жонкаю. Сваю часьць даручыў малодшаму сыну, пры якім застаўся жыць. Цяпер ён паоёр, а жонка яшчэ жыве. Ці можа старэйшы брат адсудзіць палову часткі бацькаўскай зямлі ад малодшага брата?

*Адказ*: Можа, але павінен пакінуць матцы $^{1}/_{7}$ з усей бацькаўшчыны зямлі і $^{1}/_{4}$ са скаціны.

### Бураку.

*Запытаньне*: Хачу выразаць вакно ў сваей сьцяне, якое будзе выхадзіць на двор суседа. Ці маю права гэта зрабіць, бо сусед забараняе?

*Адказ*: Бяз згоды суседа ня можна.

# Паштовая скрынка.

**Віктару Шарамэту**: пісьмо вашае атрымалі, — думкі, паданыя ў ім, прымем да ведама, але ў газэце ня друкуем.

**Беларусу**, у в. Новіках, Стаўпецкага пав. Тое, што вы пішаце аб паліцыянтах, якія любяць выпіць „на дармавую“, трэба падцьвярдзіць фактамі: дзе, калі і ў каго рабіліся „апэрацыі“ з сабакамі і пратаколамі.



Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.